Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

29 лістапада 1997 года
СУБОТА
№ 71
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 750 руб.
Цана ў розніцу — 1000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА




**МЯСЦОВЫ**

## Ніякай перспектывы

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Станцыя тэхнічнага абслугоўвання легкавых аўтамабіляў была раней адзінай у райцэнтры і даставіць сваю легкавушку туды на рамонт было даволі складана. Калектыў тут працаваў больш-менш пастаянны, заказчыкаў хапала.

Але вось з'явіліся прыватныя майстэрні ў горадзе і раёне. Здавалася б, па логіцы дзяржаўны «Аўтасервіс» павінен мець недагрузку. На самай справе яно так і ёсць. Часам, як кажуць, густа, а часам пуста.

— Як справы, Анатоль Сямёнавіч? — запытаў у дырэктара станцыі А. С. Богука наш карэспандэнт. — Як з перспектывай?

— Ніякай перспектывы, — сказаў ён і безнадзейна махнуў рукой.

Песімізм кіраўніка зразумелы. Кадры не ўтрымаць, зарплата невялікая. Майстар і той атрымлівае не больш за мільён рублёў. Зваршчык — трохі больш. Але гэта не грошы для дарослага мужчыны.

У асноўным цэху — рамонтным — ужо колькі гадоў няма цяпла і пакуль што не прадбачыцца. Такое становішча і ў зварачным цэху. Але тут маюць справу з агнём, хоць рукі можна пагрэць.

Не вырашаюць фінансавай праблемы станцыі і магазіны, якія тут працуюць.

## Не колькасцю, а таварамі

**БАРАНАВІЧЫ.** 71-ю па ліку краму адчыніў райспажыўсаюз ля комплексу адпачынку «Паўлінава», дзе размешчана некалькі невялікіх вёсачак. З гэтай нагоды ў новую гандлёвую кропку завезлі процьму харчовых і прамысловых тавараў, а на адкрыцці былі прамовы і запэўніванні ў павышэнні ўзроўню гандлёвага абслугоўвання вяскоўцаў.

Між тым, распажыўсаюз, які даўно і трывала "сядзіць" на картатэцы, з цяжкасцю забяспечвае іншыя сельскія крамы таварамі першай неабходнасці. Таму вяскоўцам даводзіцца ездзіць у райцэнтр, каб набыць прадукты і адзенне. А гэта дадатковыя матэрыяльныя затраты, страта рабочага і асабістага часу.

● *ФОТАЗНАЁМСТВА З СУЧАСНІКАМ*

## Лабарантка малаказавода Святлана БАХУР



*ІВАЦЭВІЧЫ. Пасада ў Святланы Аляксандраўны Бахур даволі сціплая – яна лабарантка адкрытага акцыянернага таварыства «Івацэвіцкі малочны завод». Гэта, так сказаць, толькі знешне. А вось для малочнай вытворчасці такая пасада не проста патрэбная, а неад'емная. Увесь вытворчы працэс на заводзе не можа распачацца, пакуль лабараторыя не выдасць сваіх дадзеных аб якасці паступіўшага малака.*

*Ужо трыццаць гадоў Святлана Аляксандраўна працуе лабаранткай, дасканала ведае сваю справу, вызначаецца стараннасцю і добрасумленнасцю. Свой багаты вопыт перадае маладым работніцам. У калектыве яе цэняць і паважаюць.*

*НА ЗДЫМКУ: С. А. Бахур за работай.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

## Пехатою будзе хутчэй?..

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Па-ранейшаму ў цяжкім фінансава-эканамічным становішчы знаходзіцца прыборабудаўнічы завод. Нягледзячы на намаганні калектыву яго запазычанасць у бюджэт складае амаль два мільярды рублёў. Час ад часу калектыў ліхаманяць вымушаныя адпачынкі – вось і ўвесь жнівень завод не працаваў. Вядома, такое становішча не спрыяе стабілізацыі кадраў. Як паказвае статыстыка, з работы звальняюцца найбольш кваліфікаваныя рабочыя і спецыялісты. Сёння на заводзе працуе каля 700 чалавек – гэта прыкладна палавіна колькасці працуючых у 1990 годзе. Аб'ём выпускаемай імі прадукцыі ў параўнанні з гэтым жа годам таксама знізіўся ў два разы.

Як вядома, раней завод пастаўляў прыборы для авіяцыйнай прамысловасці, у тым ліку ваеннай. Пасля 1991 года колькасць заказаў такога кшталту рэзка знізілася, а пераарыентацыя на выпуск тавараў мірнага ўжытку – справа дарагая і за месяц-другі не робіцца. Цяпер на заводзе выпускаецца тры мадэлі мікрарухавікоў, фены, статар-якар для электрадрэлі «Алеся - 450», працуюць над асваеннем выпуску вялікіх рухавікоў для электрапілаў і электрарубанкаў. І поспехі пэўныя ёсць: вырасла прадукцыйнасць працы амаль у паўтары разы, за прайшоўшыя тры кварталы года ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года прырост таварнай прадукцыі склаў 27 працэнтаў. Тым не менш, увогуле завод працуе яшчэ з стратамі і наўрад ці хто-небудзь з вядучых спецыялістаў і кіраўнікоў асмеліцца зрабіць станоўчы прагноз яго работы на бліжэйшую будучыню ці прадказаць, калі будзе пераадолены рубеж стратнасці. Для такіх прагнозаў няма пакуль ні фінансава-эканамічных, ні маральных падстаў, ні проста чалавечага настрою. Што значыць для калектыву толькі такі факт: у дырэктара завода М. Папка па рашэнню гаспадарчага суда адабралі службовы аўтамабіль у залік пагашэння нядоімкі ў бюджэт. Напэўна, такім чынам спрабуюць стымуляваць творчую і працоўную актыўнасць кіраўніка. Але на заводзе ўжо ходзіць анекдот, у якім прыводзяцца словы гультаяватага і тым не менш непатапляльнага тэхніка, які падзею з аўтамабілем пракаменціраваў так:

— А няхай пабегае (гэта значыць, дырэктар) нагамі. А то, бач, замітусіўся: то ў Мінск, то ў Барысаў, то ў Расію... Хадакі і да Леніна пехатою ішлі...

## Пра падтрымку гаворым...

**БАРАНАВІЧЫ.** Вялікі рэзананс у горадзе выклікаў рэспубліканскі семінар, прысвечаны праблемам падтрымцы вытворцаў недзяржаўнай формы ўласнасці. Працавала выстава прадукцыі прыватных, малых і акцыянерных прадпрыемстваў, на якой у шырокім асартыменце было прадстаўлена мноства тавараў шырокага ўжытку — ад прадуктаў харчавання, адзення да складаных прыбораў шматлікага прызначэння. Тавары падвергліся пільнаму разгляду як удзельнікаў семінару, так і жыхароў горада і вытрымалі самы строгі падыход да іх якасці.

На семінары, у якім прынялі ўдзел і прадстаўнікі ўраду рэспублікі, адзначалася, што дзейнасць прадпрымальнікаў ахоплівае ўсё больш шырокае кола вытворчасці. Доля прадукцыі, якую выпрацоўваюць вытворцы недзяржаўных формаў уласнасці і якая вызначаецца высокай якасцю, складае ў агульным аб'ёме больш за 20 працэнтаў. Была б больш разумная падатковая сістэма — напэўна, прадпрыемствы з недзяржаўнай формай уласнасці ўпэўнена ўступілі б у канкурэнцыю з дзяржаўнымі прадпрыемствамі.

● *НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ*

## Перад цаной устаяла толькі гарэлка

***У кастрычніку ўзровень інфляцыі ў краіне склаў 3,2 працэнта. У параўнанні з вераснем ён знізіўся на 1,8 пункта. Такія даныя Міністэрства статыстыкі і аналізу.***

У мінулым месяцы падаражанне закранула амаль што ўсе тавары і паслугі. Па ранейшай цане прадавалася толькі гарэлка, а таксама не павышаліся тарыфы на некаторыя віды паслуг жыллёва-камунальнай гаспадаркі, дашкольных устаноў, гарадскога транспарту і прагарадных паяздоў. Але за знаходжанне ў санаторна-курортных установах прыйшлося плаціць больш амаль на 30 працэнтаў. Павысілася ў сярэднім на 10 працэнтаў плата за карыстанне індывідуальным хатнім тэлефонам і за адну мінуту міжгародняй размовы па ім. Зноў амаль на пяць працэнтаў узрос кошт мяса і мясапрадуктаў. Змяніліся таксама ў бок адчувальнага павелічэння лічбы цэннікаў на хлеб і хлебабулачныя вырабы.

## Прыватызацыі – да, «прыхватызацыі» – не

***Афіцыйная статыстыка сведчыць, што за 10 месяцаў гэтага года ў рэспубліцы рэфармавана 409 аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці, з іх 163 — рэспубліканскай і 246 — камунальнай.***

Прыярытэтнай формай пераўтварэнняў застаецца акцыяніраванне: створана 131 акцыянернае таварыства.

Завяршылася работа над праектам Дэкрэта "Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь", які ў бліжэйшы час будзе прадстаўлены на разгляд кіраўніка дзяржавы.

## СВАБОДУ забаранілі

***Вышэйшы гаспадарчы суд прыняў рашэнне спыніць дзейнасць газеты СВАБОДА.***

Доўгага судовага працэсу не было. Суддзі М. Клімянковай, якая разглядала справу, спатрэбілася ўсяго 15 хвілінаў, каб вынесці рашэнне аб закрыцці СВАБОДЫ. Газета не развітваецца са сваімі чытачамі. Рэдакцыя мае намер распачаць выпуск новага выдання.

## Ёсць міністр, ёсць і намеснік

***Указам Прэзідэнта краіны Іван Пятровіч Шакала назначаны міністрам сельскай гаспадаркі і харчавання.***

Прэзідэнт даў згоду на назначэнне Юрыя Дзмітрыевіча Мароза першым намеснікам міністра сельскай гаспадаркі і харчавання, які да гэтага працаваў старшыней Брэсцкага аблсельгасхарчу.

## Генерал заплаціць 5 мільярдаў і «пераселіцца» ў калонію

***Да чатырох гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўча-працоўнай калоніі агульнага рэжыму прыгавораны былі начальнік упраўлення заказаў і закупак тылу Узброеных Сіл Беларусі генерал-маёр запасу Якаў Ткачук. Такі прысуд вынесла гэтымі днямі Ваенная калегія Вярхоўнага суда нашай краіны.***

Якаў Ткачук асуджаны за злоўжыванне службовым становішчам і нядбайныя адносіны да службы. У свой час у выніку яго злачынных дзеянняў камерцыйным структурам была бязвыплатна выдадзена 401 тона бензіну АІ-93. У сувязі з гэтым Ваенная калегія Вярхоўнага Суда таксама пастанавіла спагнаць з Ткачука амаль 5 мільярдаў рублёў.

## Аб пераносе рабочага дня

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанавіў перанесці рабочы дзень з пятніцы 2 студзеня на суботу 10 студзеня 1998 года.

**(Па старонках рэспубліканскіх газет).**

● *РАСКАЗ АФГАНЦА*

# “УСЯГО ПАСПРАБАВАЎ НА ТОЙ ВАЙНЕ...”



***Пра афганскую вайну расказвалі і расказваюць. Пра афганскую вайну пісалі і пішуць. І ўсе па-рознаму, усе па-свойму давалі і даюць свае ацэнкі гэтай бязлітаснай бойні.***

***А што ж кажа сапраўдны афганец, які амаль два гады правёў там, за кардонам. Паслухаем Мікалая Уладзіміравіча Харужага, жыхара г. Косава.***

**1.**

Пра Афганістан не надта многа ахвоты ўспамінаць, наадварот, хацелася б усё забыць, выкінуць з памяці. Але ж перажытае, як ні круці, не забываецца. Там, у гарах і паміж гор, сапраўды пралілася чалавечая кроў. І вельмі многа. Там упершыню я ўбачыў пакуты і смерць маладых салдат. Нас, васемнаццацігадовых, яшчэ па сутнасці не пачынаўшых самастойнае жыццё і не сустракаўшых на сваім шляху жыццёвых цяжкасцей, кінулі ў тое афганскае пекла. Хто выжыве, той застанецца. Нікога не цікавілі, не хвалявалі ні фізічныя, ні духоўныя траўмы маладых людзей. Каму з чыноўнікаў было шкада чужых сыноў?

Ёсць загад, пастаўлена задача, выдадзена зброя, боепрыпасы і дзейнічай — за табой Радзіма, а ты, як нам убівалі ў галовы, абаронца яе паўднёвых рубяжоў. Слухалі мы і маўчалі. Камандзірам нельга пярэчыць. Між сабой і то цішком абменьваліся думкамі і марамі аб тым, каб хутчэй усё тут закончылася і вярнуцца дамоў.

Ад успамінаў пра бацькоўскі дом, пра сваю вёсачку, пра тых, з кім побач рос, рабілася светла і лёгка на душы, нібы выпіў кілішак жывой вады з беларускай цудатворнай крынічкі.

**2.**

Па праўдзе сказаць, калі я збіраўся на службу ў армію, марыў, як кожны малады чалавек, стаць сапраўдным салдатам. У маім разуменні — гэта авалоданне ваеннай спецыяльнасцю, фізічная і маральная загартоўка.

Канешне, ніколі не забуду той лістападаўскі дзень 1986 года, дзень провадаў у армію, наказы бацькоў, пажаданні сяброў і знаёмых. Усё гэта глыбока ўразіла маю юнацкую душу, яшчэ мацней прывязала да месца, дзе нарадзіўся і вырас, дзе вучыўся ў школе і, вядома, марыў пра шчаслівую будучыню.

Гэтыя мары засталіся са мной і тады, калі ў Туркменіі ў невялікім гарадку Тахта-Базар, што ў 25 кіламетрах ад афганскай граніцы, мяне і маіх равеснікаў абмундзіравалі і знешне мы сталі падобнымі на абаронцаў Айчыны.

З першых дзён прыйшлося прывыкаць да армейскага жыцця, да напружаных салдацкіх будняў. Без іх нельга. Ваенную навуку прыходзілася засвойваць не без цяжкасцей. Курс маладога байца даў мне асноўныя навыкі кіравання ваеннай тэхнікай, валодання зброяй, рукапашным боем, словам, нас рыхтавалі, як я зразумеў, да нялёгкіх выпрабаванняў у складаных умовах.

**3.**

Гэтае маё прадбачанне яшчэ больш умацавалася, калі нас, салдат, толькі што прайшоўшых курс маладога байца, фармальна апыталі, у якіх менавіта пагранвойсках хацеў бы прадоўжыць армейскую службу. Я выбраў пагранічную заставу. Зноў зборы, ужо дзесяцідзённыя, непасрэдна звязаныя з новым выбарам.

Дарэчы, калі я вучыўся ў школе, я адначасова займаўся ў Косаўскім вучэбна-вытворчым камбінаце, дзе атрымаў дакументы трактарыста, а перад службай у арміі па накіраванню райваенкамата закончыў курсы шафёраў у Івацэвіцкай аўташколе.Таму мяне рыхтавалі на вадзіцеля баявой машыны — БТР.

16 лютага 1987 года верталётам нас даставілі ў Афганістан, у кішлак Кайсар, гэта за 70 кіламетраў ад савецкай граніцы. Вось табе і пагранзастава, падумаў я. Тут ужо знаходзіліся пагранічнікі.

Так пачалася мая служба на новым месцы, за межамі сваёй краіны. Дакладней прыйшлося не служыць, як у мірны час, а проста ваяваць. Бо днём і ноччу грымелі выбухі на дарогах і ў гарах, пастаянна раздаваліся кулямётныя і аўтаматныя чэргі. Усё, як на вайне.

Спярша мяне ўсё цікавіла: і горы бязлесныя, як акінуць вокам, дарогі і сцежкі, што як змеі, уюцца паміж гор, і гарачае сонца, якое бязлітасна смаліць увесь дзень. Паступова такая цікавасць прытуплялася, на змену прыходзіла сапраўдная мужчынская работа — неабходнасць ваяваць. Бо вораг невядома дзе: злева, справа, вакол. Трэба чакаць яго адусюль і быць заўсёды напагатове. Калі адны спяць, другія — на варце. І не дай Бог згубіць пільнасць, задрамаць або часова пакінуць пост.

**4.**

Трэба прызнацца, што афганцы, як нас сталі называць, не проста загартаваныя і мужныя байцы. Яны — універсалы. Хлопцы маглі рабіць на вайне любую работу: быць аўтаматчыкам і кулямётчыкам, разведчыкам і снайперам, вадзіць баявыя машыны... Словам, усяго прыйшлося паспрабаваць на той вайне.

Я лічу, што самай небяспечнай для афганцаў была разведка. Цябе могуць бачыць і знішчыць, могуць заманіць у лавушку і расправіцца. Складанасць у тым, што горы бязлесныя і не ўсюды схаваешся. Трэба выдатна ведаць мясцовасць, каб не папасці пад кулі. Душманы ў гэтых адносінах нас пераўзыходзілі. І неўзабаве мае думкі пацвердзіліся.

Праз некалькі дзён пасля ўладкавання на новым месцы наш атрад па выкліку адправіўся да граніцы — два БТРы, тры бронетранспарцёры. Па аднаму тут ніколі не ездзілі — небяспечна.

Праз пяць-шэсць кіламетраў з гор раздаліся выстралы. Кулі прасвісцелі літаральна ля маіх вушэй. Не ведаю, відаць, Бог ёсць на свеце, што я застаўся жывым у першым паходзе-разведцы.

Мы хутка зарыентаваліся і адкрылі такі шквальны агонь па прыкладнай цэлі, што праз колькі хвілін усё сціхла, як быццам бы і не было нічога. Мы працягвалі свой шлях да граніцы.

**5.**

Здаралася, што і мы пападалі, здавалася б, у бязвыхаднае становішча. І толькі салдацкая вынослівасць, мужнасць і адвага дапамагалі выжыць.

Ад нашага кішлака Кайсар, дзе мы размяшчаліся, да Майманэ, цэнтра правінцыі Фар'ят, каля 70 кіламетраў. Адтуль паведамілі, што горад з усіх бакоў блакіравалі душманы і патрэбна дапамога. Зборы былі нядоўгія, бо мы заўсёды стаялі напагатове, каб адбіць чарговую вылазку духаў.

На паўдарозе, якраз у «зялёнцы», нас здорава абстралялі. «Зялёнка» — гэта невялікая мясціна, дзе ёсць вада. А каля вады растуць вінаграднікі, кустоўе, сады. Дык вось увесь агонь душманаў быў нацэлены на сярэдзіну калоны. Нас «разрэзалі» на дзве часткі. Падбілі якраз тую грузавую машыну, у кузаве якой знаходзіліся снарады і міны. Яны пачалі рвацца. Гэта быў жудасны, страшны момант.

Пярэдняя частка калоны, дзе я знаходзіўся, працягвала рух уперад, а задняя — з боем адступіла, бо прарвацца далей стала немагчыма.

Такім чынам, мы (гэта значыць, палова нашай калоны) апынулася сярод двух агнёў, амаль у лавушцы. Злева і справа — горы, уперадзе і ззаду — душманы. Зброя і тэхніка ў нас былі, таму расправіцца з намі хутка не маглі. На перавале, дзе мы занялі абарону, усе падыходы праглядаліся і прастрэльваліся. Днём «палілі» па нас здалёк, а вось па начах спрабавалі падысці бліжэй, каб больш трапна весці агонь. І днём, і ноччу мы ўсе знаходзіліся на баявым пасту, змяняючы адзін аднаго, каб крыху падрамаць. Аб нейкім сне не магло быць і гаворкі. Заснуць проста не давалі. Хочаш выжыць, ні ў якім разе не спі. Будзь у кожную хвіліну напагатове. Так і рабілі ўсе нашы салдаты.

**6.**

Цяжка сёння ўявіць, як мы цэлы месяц адбіваліся на тым перавале. Страты, канешне, былі. Восем салдат загінула. Былі параненыя і кантужаныя. Усе нашы байцы, а гэта 18—20-гадовыя хлопцы, знясіленыя месячнай блакадай (гэта я адчуваў і на сабе), сталі больш сур'ёзнымі і дарослымі не па гадах, на вачах узмужнелі і ўжо ніякага страху не адчувалі, як у першыя дні так званай пагранічнай службы. Праўда, геройства Матросава не праяўлялі. Тут яно не дарэчы. А патрэбна была ваенная і проста чалавечая хітрасць.

Сама суровая рэчаіснасць дапамагала станаўленню характару і выпрацоўцы лепшых чалавечых якасцей — самаадданасці, стойкасці, узаемавыручкі, сапраўднай мужчынскай дружбы. Калі ж перафразіраваць вядомую песню, то атрымаецца: «Сябра ніколі я не забуду, калі з ім я сустрэўся ў гарах».

Горы для душманаў, карэнных жыхароў Афганістана, што лес для беларуса. Ён ведае ў іх усе сцежкі-дарожкі, усе ўваходы і выхады, усе вялікія і малыя пячоры. Як высачыць «духаў», а тым больш спаймаць на мушку? Вось страляў з аднаго месца, і, здаецца, няма куды схавацца. Але ж недзе знік, прапаў з вачэй, як невідзімка. Не больш і не менш. А паспрабуй сам, не агледзеўшыся, крыху прыўзняцца ці высунуцца, адразу будзе дзірка ў галаве. Такіх выпадкаў не пералічыць.

Хачу заўважыць, што ніхто з салдат не панікаваў, калі не стала харчоў і вады. Ваду нам замяніў снег, які тады знянацку выпаў. Відаць, ад таго, што перавал знаходзіўся на паўтара кіламетра вышэй узроўню мора. Калі даведаліся, што ў нас выйшаў увесь правіянт, то з верталёта нам скідвалі ўсё неабходнае. Так і трымаліся, пакуль не падаспела падмацаванне рэгулярнай часці Савецкай Арміі, і блакада была знята. І з нас, і з горада Майманэ.

**7.**

Калі часам прыходзіцца гаварыць пра сваю службу, мне адразу чамусьці ўспамінаюцца словы «стариков»-салдат, што заканчвалі яе: «Вы зялёныя смяротнікі». Гэта нас, маладых, так называлі яны. Зялёныя — значыць маладыя, нявопытныя. А калі яшчэ дадаць, што і неасцярожныя, а некаторыя і самаўпэўненыя. Менавіта такія і нарываліся ў першую чаргу на варожыя кулі. І яшчэ. Звычайна тых салдат, што ехалі ў галаве калоны, таксама называлі смяротнікамі. Іменна першая машына падрывалася на міне, іменна па першай машыне цэлілі душманы, каб спыніць калону. Мне ўсё ж пашчасціла — мой БТР ні разу не наскочыў на міну. А ў большасці ехаў першым.

Аднойчы, а гэта было ў кастрычніку 1988 года, уся наша так званая пагранічная група ў Кайсары аказалася ў якасці смяротнікаў. Кішлак акружыла вялікая колькасць душманаў. Нікога не выпускалі. Іх задача — знішчыць пагранатрад. Але жывымі здавацца мы не мелі намеру. Мне, як сакратару камсамольскага бюро, прыйшлося перагаварыць з кожным салдатам, падбадзёрыць, усяліць упэўненасць у тым, што ў нашага байца не існуе бязвыхаднага становішча.

Тры дні доўжыўся бой. Абарона была кругавой. Мы не шкадавалі ні снарадаў, ні патронаў. Бачылі, як падаюць забітыя намі душманы. Але і духі абстрэльвалі нас з розных відаў зброі, не давалі нам спакою.

Помню адна з варожых мін накрыла ўвесь мінамётны разлік. Чацвёра хлопцаў загінула. Толік (ён з Пінскага раёна) яшчэ быў жывы, асколкамі страшна пасекла яго. «Паміраць не хачу, — шаптаў ён нам. — Выратуйце мяне, браткі!» І сёння бачу яго вочы, яго позірк спадзявання і надзеі. Не давезлі Толіка да шпіталя. Памёр на нашых руках.

А на трэці дзень нашай абароны варожы снарад трапіў і ў мой БТР. Мяне і Шурыка Берднікава кантузіла. Былі пры памяці, прытомнасці не гублялі. Калі падаспела падмога і душманы не вытрымалі яе націску і пабеглі, нас дваіх, а таксама іншых параненых верталётам адправілі ў Ашхабад. Лячыўся ў ваенным шпіталі. Тры тыдні.

**8.**

Непрывычная і цяжкая гэта справа лячыцца, хаця я, як і мой сябра, былі не з «цяжкіх». Я сабе не ўяўляў раней, што так доўга, так нудна можа цягнуцца час. Здаецца, цэлая вечнасць. Усё перадумаеш, усё абмазгуеш. Не раз успамінаў пра дом, пра бацькоў, што засталіся ў невялікай вёсачцы Хадоркі паблізу Косава. Пісаў да хаты лісты, паведамляў пра сваю службу на пагранзаставе. Аб тым, што я знаходжуся ў Афганістане, ні слова. Мне проста было шкада сваіх бацькоў. Навошта ім думаць, хвалявацца, перажываць? Яны з розных крыніц ведалі, што там ідзе вайна, гінуць людзі: і ў наш раён неаднойчы прывозілі цынкавыя труны.

З нецярпеннем чакаў лістоў з дому. Перачытваў іх па некалькі разоў. Пісала мне і мая знаёмая Іра з вёскі Харошча. У армію праводзіла і дала слова, што будзе чакаць. Я верыў ёй, а, можа, і больш, таму спадзяваўся. Усё ж закрадвалася думка, а раптам са мной што здарыцца. Тады...

«Не думай лішняга, не забівай галаву, — бачачы, што я ляжу на шпітальным ложку ў задуменні, гаварыў Шурык Берднікаў. — Служба па сутнасці закончылася...»

Сапраўды, служба заканчвалася. Ужо ішла размова аб вывадзе савецкіх войск з Афганістана. Але пасля трох тыдняў у шпіталі, калі ўрачы нас агледзелі і сказалі, што мы здаровыя, нас зноўку перакінулі ў Кайсар, дзе знаходзіліся яшчэ месяц.

**9.**

Вярнуўся я дахаты з узнагародамі: медалём «За адвагу», з двума медалямі «За заслугі ў ахове дзяржаўнай граніцы». Ордэн Чырвонай Зоркі мне ўручылі ўжо дома.

Маці, калі даведалася, дзе я служыў, ледзь прытомнасць не згубіла. Плакала, але ж я зразумеў, што гэта былі ўжо слёзы радасці. Сын жывы і здаровы, чаго больш трэба.

Так закончылася мая афганская старонка жыцця. Але ж тут, на радзіме, яна мела свой нечаканы працяг. Спачатку на былых афганцаў звярталі нейкую ўвагу. Ільготы былі. Нават помнік у Івацэвічах з'явіўся. Але чым больш мінала часу, тым менш станавілася клопатаў пра нас. І, нарэшце, амаль усе льготы скасавалі.

Да глыбіні душы мяне абурыў і пакрыўдзіў адзін факт, пра які расказалі знаёмыя. Гэта было ў Івацэвічах. Былы афганец, які абзавёўся сям'ёй, зайшоў неяк у гарсавет, каб распытаць наконт кватэры. Здаецца, і гутарылі па-чалавечы, але адна фраза ўдарыла ў сэрца: «Мы цябе туды не пасылалі». Праўда, не яны, мясцовыя ўлады, а ўрад (тады яшчэ Савецкага Саюза) гналі нас, маладых, яшчэ бязвусых, на вайну. Хіба мы вінаватыя, што сталі закладнікамі ваенных і палітычных амбіцый камуністычных бонзаў? Гэта ж па іх волі мы выконвалі загады камандзіраў, стралялі ў людзей і самі гінулі, станавіліся калекамі фізічна і псіхічна.

І са мной штосьці падобнае было. Неяк пайшоў у Косаўскі гарсавет, каб даведацца што-колечы пра брыкет, мо палёгкі якія ёсць. А за спіной мужыкі і бабы бурчэлі, маўляў, хаця б старых, удзельнікаў вайны забяспечылі, а маладыя самі заробяць. Навошта ім дармовае. Завярнуўся я і пайшоў галаву апусціўшы.

А яшчэ ж помню, як нам там, за мяжой, казалі, што прыраўняюць нас да ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Ды дзе там! Ніхто і слухаць не хоча зараз аб гэтым.

А адзін мой знаёмы, таксама ваяваў у Афганістане, быў паранены, пайшоў у райваенкамат даведацца наконт ільгот, то яму сказалі: вось дажывеш да 60-ці гадоў, тады і будуць ільготы. А можна ж і не дажыць?

Усё ж я веру, што з цягам часу будзе інакш. Зменяцца адносіны да былых афганцаў. Не можа так быць, што таго, хто ваяваў і кроў праліў, нельга назваць удзельнікам вайны: не мае значэння якой — афганскай, чачэнскай ці айчыннай. І даць чалавеку тое, што ён заслужыў.

А пакуль што для мяне важна адно: каб была работа, каб рэгулярна плацілі зарплату і было на што ўтрымліваць сям'ю, гадаваць сваіх дзяцей.

Колькі слоў пра сваю сям'ю. Ажаніўся на той жа Ірынцы, што праводзіла мяне ў армію і чакала. Калгас «Косава» пасля арміі даў мне новы трактар, толькі працуй. Выдзеліў таксама асобны дом для маёй сям'і. Так што ёсць добрыя людзі і ў наш час, якія клапоцяцца пра сваіх работнікаў.

*Запісаў*
*С. КАЖАДУБ.*

● БИБЛИЮ ЧИТАЕМ ВМЕСТЕ

# И осел надобен Господу

**(ЕВАНГЕЛИЕ ОТ ЛУКИ, 19 гл.)**
**2 ЧАСТЬ**
**(Продолжение. Начало в №№ 3—69).**

Однажды молодая, красивая девушка серьёзно заболела и попала в больницу. Старый пастор церкви посетил её и подарил увядший букет некогда благоухающих роз. Девушка справедливо возмутилась и упрекнула старого человека за негодный подарок. Но мудрый служитель ответил, что и девушка, в свою очередь, поступила так же с Богом. Творец наделил её прекрасной внешностью, молодыми силами, способностями. На что же растрачивает она все богатство, так щедро подаренное ей Богом? На развлечения, грешную жизнь, на удовлетворение своих прихотей. Не оскорбительно ли это для Бога, если девушка всегда отвечала священнику, что покается лишь тогда, когда постареет и жизнь придет к закату?

Ст. 11-27. Притча, рассказанная Иисусом Христом, заставляет нас серьёзно задуматься о том, что мы сделали с тем удивительным богатством, которое было подарено нам Богом? Как мы послужили Создателю? Раав и Закхей, о которых было рассказано в предыдущей статье, послужили Господу, служа народу Божию, слушая и принимая верою слово Бога.

Некоторый господин знатного рода, отправляясь в дальнюю страну, оставил своим рабам деньги. Рабы получили по мине (сто серебряных динариев), что достаточно, чтобы прожить один год и не в чем не нуждаться. Условие господина состояло в том, чтобы использовать эти деньги правильно и принести прибыль. Господин же отправлялся для получения царства (абсолютной власти и господства). Но слуги поступили так, как сочли нужным. Одни отвергли волю господина, не веря, что господин получит власть царя. Другие не использовали деньги, опасаясь растратить их и потерять способность вернуть долг. Другие же правильно употребили полученную сумму и приобрели тем самым похвалу и славу, которой вознаградил трудолюбивых и послушных слуг вернувшийся в царственной славе господин. Хитрые и ленивые рабы были наказаны, верные вознаграждены.

Ст. 28-35. Каждый человек получил от рождения таланты и способности. Конечно, они различны, неповторимы, но тем и разнообразнее наши возможности служить Богу. Напрасно говорить о недостатках воспитания, образования, силы, опыта. Осел, о котором написано в этих стихах, и вовсе был необъезжен, упрям и к тому же молод. Но и он был надобен Господу! Неужели мы не можем найти применения в служении Богу, если даже осел удостоился чести послужить Христу? Не стоит так низко оценивать своих способностей. Бог все создал прекрасно и полезно, просто нужно не упрямствовать и не противиться Создателю.

Ст. 35-44. Иисус въезжал в Иерусалим ясно осознавая, что это будет для Него последней, кровавой Пасхой. Ослик был символом смирения и послушания. Так Иисус служил Отцу всем, что имел. Его жизнь стала прославлением Бога, а Крестная смерть стала высшим актом послушания. Потому и воскрешен был Иисус из мертвых, угодив Отцу, искупив людей, явив любовь и милость нам, погибшим грешникам.

Люди прославляли Христа. Славили Бога, а Иисус, глядя на них и на Иерусалим, плакал. Почему? Потому, что люди желали видеть от Иисуса послушания им. Они желали видеть Иисуса царем Израиля, который даст им свабоду и богатство. А Иисус пришел для Голгофы. Как это похоже на нас сегодня. Мы не хотим служить Богу, уподобляясь Христу. Мы хотим, чтобы Бог служил нашим прихотям. Когда же Бог не отвечает на наши грешные молитвы, мы «свергнем» Бога с пьедесталов нашего сознания. Наши выдуманные боги послушно служат нам и не разачаровывают нас. Если же не так, то мы легко заменяем их на послушных. «Слава богу», — восклицает «своему богу» непопавшийся вор. «Спаси господи», — молится «своему богу» ленивый студент перед экзаменом. «Помоги господи», — просит блудница, пришедшая на аборт. Иисус плакал, видя это страшное заблуждение. Своим примером Он показал, как нужно преданно и до конца служить Богу. Поэтому Иисус изрек страшное пророчество на Иерусалим и израильский народ. Разорение, позор, слезы, смерть, пустота ожидают непослушных людей, отвергших волю Бога.

Ст. 45-48. Иисус выгнал из храма всех, кто служил не Богу, а себе. Торговцев храмовыми «реликвиями», жертвенными животными. Тех, кто покупал это, считая, что удовлетворяет тем Бога. «Дом мой есть дом молитвы», — сказал Иисус. Другими словами, храм – это место, где грешник проходит в молитве покаяния, смирения и послушания перед своим святым Творцом. Бог не нуждается в наших золотых, серебряных или деревянных игрушках, которые мы придумываем себе для удовлетворения своих религиозных поклонений. Бог требует познания Его воли и выполнения Его святых заповедей.

Вникаем ли мы сегодня в Евангелие Иисуса Христа? Стремимся ли угодить Богу, поступая в соответствии с желаниями Бога? Если нет, то чем же мы думаем угодить Богу? Каждый из нас дорог и надобен Господу. Что сделал я для Него? Так должен каждый спросить себя.

Любовь, радость, мир, долготерпение, благие дела, милосердие, вера, кротость, воздержание от всякого зла. Есть ли в нас это? Умножается ли богатство, данное нам Создателем? Служим ли мы этим Ему и людям?

*С любовью к Вам, священнослужитель Церкви «Рождества Христова»* КОНСТАНТИН.

(Продолжение следует).



● СТОП-КАДР

*Замяла завея*
*усе дарогі,*
*Цішыня празрыстая*
*стаіць.*
*У буркі цёплыя*
*засуну ногі,*
*Выйсці мне*
*на вуліцу карціць.*
*Выйду, пахаджу*
*па белым снезе,*
*На лес гляну —*
*ён замёр, застыў,*
*Толькі страсянецца*
*ледзьве-ледзьве*
*Той дубок,*
*што на марозе*
*стыў.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

● ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ

## ЧТОБЫ ИЗ НОСА НЕ ТЕКЛО

Все чаще нам попадаются люди, судорожно прижимающие к своим носам платки. Вроде бы заболевание не такое серьезное — насморк, но попробуй с ним поработай, если из носа течет, глаза слезятся, да и носовых платков не напасешься... Предупредить насморк можно только одним способом: постоянно закаливая свой организм и увеличивая его защитные силы.

Способ закаливания можно выбрать любой, благо их в настоящее время существует великое множество. Пожалуй, самый простой — это ножные ванны с постепенным снижением температуры воды. Скажем, вы начинаете с 35 градусов и через каждые три дня снижаете температуру воды на три градуса.

Прекрасно тренируют сосуды и оказывают закаливающий эффект контрастные ножные ванны (через каждые 2—3 минуты вы опускаете ноги попеременно в таз с горячей и холодной водой) либо контрастный душ.

Тем, у кого нос реагирует бурными выделениями на промозглую погоду и холодный ветер, лучше потренировать его следующим образом. Возьмите полотенце и, смочив его теплой водой, наложите на область носа и щек, оставив открытыми глаза и рот. Постепенно снижайте температуру воды и одновременно увеличивайте время наложения своеобразного компресса. Но не держите холодное полотенце на лице дольше 5—7 минут! Вообще к закаливанию надо подходить с осторожностью, иначе можно и с его помощью заработать тот же насморк. Итак, сняв полотенце, промокните лицо сухой салфеткой и энергично разотрите переносицу средними пальцами обеих рук. Регулярное закаливание поможет вам забыть не только о насморке, но и о других простудных заболеваниях.

● ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫЯ ГІСТОРЫІ




Праз месяц, гэта значыць у студзені, дзеду Ахрэму спаўнялася 70. Дата, можна сказаць, салідная. І ўзрост таксама. Дзеці, унукі і праўнукі, іншыя сваякі думалі-гадалі, які ж падарунак уручыць свайму юбіляру. Спярша хацелі скласціся і разам набыць штосьці патрэбнае і каштоўнае, але не прыйшлі да агульнай згоды і рашылі, што кожны будзе рабіць выбар сам. На тым і разышліся.

І вось наступіў дзень юбілею. Якраз на выхадны выпала, на нядзелю. Сабраліся ўсе сваякі і добра знаёмыя. Хто карціну прынёс, хто стосік кніжак, нехта падарыў новенькі капялюш. Акуліна, малодшая сястра Ахрэма Адамавіча (яе ў дзяцінстве звалі проста Куля), купіла свайму брату на базары шапку-вушанку, андатравую, з футра цёмна-карычневага, бліскучага. На сонцы яно проста пералівалася.

Не мог не нарадавацца гэтаму падарунку стары Ахрэм. Ужо на другі дзень, ідучы ў магазін па малако, яшчэ ля парога ў люстра вялікае, што ля сцяны, зазірнуў: падыходзіць, нібыта не ён гэта, а дырэктар завода.

А праз колькі дзён мароз стаў мацнець. Пякучы, з вецярком. Выйшаў на вуліцу Ахрэм Адамавіч і накіраваўся ў гаспадарчы магазін па пакупкі. Прадыбаўшы метраў дзвесце, дзед адчуў, што вушы пачынаюць замярзаць. Нядоўга думаючы, развязаў з верху шапкі шнурок, апусціў яе вушы і адразу пацяплела ўсёй галаве. Пакрочыў далей.

Ішоў і заўважыў, што нейк уважліва, больш чым звычайна, глядзяць на яго прахожыя.

Ужо ў магазіне зняў шапку, каб адгарнуць і звязаць вушы. Не хадзіць жа па зале ў шапцы з апушчанымі вушамі. Да таго ж дзед Ахрэм не дачуваў на адно вуха. Дала сябе знаць ягоная прафесія: 19 гадоў на гусенічным трактары адрабіў, у вечным лязгаце, шуме, пылішчы.

Толькі пачаў загортваць вушы ў сваёй шапцы, каб звязаць іх зверху, як сам жахнуўся: на адгорнутай знешняй частцы шапкі не аказалася шкуркі андатры, там была звычайная матэрыя.

«Вось чаму на мяне прахожыя звярталі ўвагу. А я не падумаў, што такое можа быць, — сам сабе абураўся дзед Ахрэм. – Шапка – нібы наш калгас. Зверху — прывагі, урацжаі, надоі, а заглянь унутр — латаная дзірка".

Хуценька звязаў вушы ў шапцы, насунуў на галаву і супакоіўся. Ідучы дахаты, ужо не развязваў і не апускаў вушы ў сваёй шапцы-падманцы, хоць свае мерзлі. Цярпеў. І насіў яе пасля гэтага яшчэ не адну зіму. Як-ніяк, а сястрын падарунак.

*С. РЫГОРАЎ.*

## Сердечно поздравляем

*Уважаемый*
*Анатолий Евгеньевич*
*ДАНИЛЮК*
*из г. Ивацевичи!*

*Сердечно поздравляем Вас с днем рождения!*

*Пусть здоровье, счастье, радость*
*С Вами дружат каждый час,*
*Пусть тяжёлое ненастье*
*Стороной обходит Вас.*
*И не старят пусть Вас годы,*
*Пусть не трогает беда,*
*Пусть природа Вам подарит*
*Жизни долгие года.*

*Коллектив ОВПС-6 г. ИВАЦЕВИЧИ.*

*Дорогую, любимую мамочку и жену*
*САМУСИК*
*Нину Васильевну*
*из д.Бытень поздравляем с днем рождения. Желаем крепкого здоровья, удачи и благополучия всегда и во всем.*

*Пусть в жизни будет все, что нужно,*
*Чем жизнь бывает хороша, —*
*Любовь, здоровье, счастье, дружба*
*И вечно юная душа!*

*Сын Дима, дочь Оля, муж Геннадий.*

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 27 лістапада ў 14.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: 225250, г.Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя "Газеты для вас".
Тэлефон: 8 (245) 2-12-29.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

*Тыраж 1400.*
*Заказ 2826.*